паміж каламі лазовымі віцамі з вышынёй запляценьня ад 0,7 да 1 *м* пры адлеглясьці ніжняе часткі запляценьня ад дна канавы на 0,25—0,30 *м*.

Грунтоўны рамонт і ўмацаваньне пакатаў адбывалася ў летні сэзон 1925, 1926, 1927 г. прычым у вусьці канавы пры ўпаданьні яе ў возера Старыцу, ад 1925 г. да летняга сэзону 1927 г., ад уплыву грунтоўнага рамонту верхняй часткі, вынесена зямлі з тарфянога і пясчанага грунту на даўж. 216 *м*. Гэта зусім заіліла возера шырынёю 100 *м* пры глыбіні яго ад $1^1/_2$ *м* да $2^1/_2$ *м*, усяго-ж ад пачатку работ Заходняй экспэдыцыі возера заілілася на працягу 1,4 *клм*. Пры дасьледваньні стану ўзроўню дна канавы выявілася, што яно на працягу $7^1/_2$ *клм* ад вусьця ўсё паднялося за 2 гады, прыкладам, на 0,35—0,40 *м* ад заіленьня пясчаным грунтам. Галоўнейшымі прычынамі гэтага былі: блізка пастаўленыя, на 1 *м* ад броўкі канавы, пясчаныя кавальеры, якія штодзень ссоўваюцца ў канаву праходзячым па бэрмах і кавальерах мясцовым насельніцтвам і перагонам усюды жывёлы, а ў веснавы час, пры разьліве ракі Прыпяці, пясчаны незамацаваны грунт кавальеру зносіцца ў канаву таксама і паводкаю (рыс. 50).

Паміж пікетамі 118—160 канава праходзіць у шчыльным тарфяным грунце, дзе з дна канавы на ўсім паказаным працягу ціскам грунтовае вады ўзарвала вялікія камлыгі торфу, велічынёю да 7×3×1 *м*. Шмат з гэтых камлыг размыта цячэньнем вады, а некаторыя зьнесены цалкам або пакладзены радам на дно канавы.

Паміж пікетамі 160—170 і 190—210 пры грунтоўным рамонце канавы, у пясчаным грунце былі пастаўлены нахіленыя плецянёвыя ўмацаваньні пакатаў, якія пасьля першай вясны ад часу іх пабудовы, былі месцамі разбураны ад ціску грунту на ўмацаваньне і на паваротах ад размываньня дна канаў. У наступныя гады ўмацаваньні, якія захаваліся і якія ссунуліся з прызмаю грунту да дна каналу, застаюцца ў ранейшым стане бяз значных зьмен. Пакаты каналу, дзе ня было ўмацаваньня і дзе ўмацаваньне разбурылася, з кожным годам даволі хутка абвальваюцца. Такім чынам там, дзе назіраецца выхад грунтавое вады ў вясновы час, пакаты праз 3 гады пасьля грунтоўнага рамонту паабвальваліся ў бок да 6 *м* (гл. рыс. 51).

Ад пік. 210 да пік. 220 верхняй нумарацыі канал праразае пясчаны груд, зарослы лесам. Запроектаванае для грунтоўнага

# Уздоўжны профіль Найда-Бялёўскага каналу
## Мазырскай акр.




| №№ пік. і адлегласьць пам. (м) | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Адлегласьць (м) | | 103.0 | 106.0 | 106.0 | 106.2 | 100.0 | 100.0 | 110.0 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 105.5 | 106.5 | 106.0 | 106.5 | 106.5 | 100.0 | 119.5 |
| Адзнакі паверхні зямлі | | 5.13 | 5.00 | 5.66 | 5.17 | 4.74 | 5.42 | 5.33 | 5.42 | 5.38 | 5.82 | 5.40 | 5.53 | 5.91 | 5.87 | 5.91 | 6.11 | 6.07 |
| Адзнакі выкананага дна 1925 г | 3.69 | 3.86 | 3.88 | 3.83 | 4.01 | 4.08 | 4.19 | 4.16 | 4.20 | 4.25 | 4.28 | 4.33 | 4.37 | 4.42 | 4.46 | 4.53 | 4.57 | 4.61 |
| Адзнакі дна 1927 г | 4.07 | 4.13 | 4.20 | 4.31 | 4.35 | 4.40 | 4.43 | 4.46 | 4.54 | 4.47 | 4.54 | 4.73 | 4.76 | 4.88 | 4.95 | 4.99 | 4.83 | 4.78 |
| Адзнакі горызонту вады 1927 г | 4.22 | 4.29 | 4.38 | 4.46 | 4.53 | 4.59 | 4.65 | 4.71 | 4.77 | 4.82 | 4.87 | 4.94 | 4.97 | 5.06 | 5.11 | 5.17 | 5.21 | 5.21 |
| Глыбіня торфу | 0.34 | 1.00 | 0.83 | 0.85 | 1.39 | 0.75 | 0.85 | 0.85 | 0.75 | 0.85 | 1.07 | 1.07 | 1.88 | 0.53 | 1.60 | 0.85 | 1.07 | 1.39 |

| №№ пік. і адлегласьць пам. (м) | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Адлегласьць (м) | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.0 | 106.5 | 106.5 | 118.3 | 81.5 | 100.0 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 106.5 | 99.5 |
| Адзнакі паверхні зямлі | 5.93 | 6.77 | 6.66 | 6.72 | 5.81 | 6.31 | 5.73 | 6.24 | 5.99 | 6.18 | 7.04 | 6.29 | 6.41 | 6.29 | 6.57 | 6.88 | 6.95 | 6.77 |
| Адзнакі выкананага дна 1925 г | 4.65 | 4.69 | 4.74 | 4.78 | 4.32 | 4.87 | 4.91 | 4.97 | 5.01 | 5.06 | 5.10 | 5.14 | 5.19 | 5.23 | 5.27 | 5.31 | 5.36 | 5.41 |
| Адзнакі дна 1927 г | 5.07 | 4.74 | 5.04 | 4.76 | 5.20 | 5.24 | 5.27 | 5.30 | 5.39 | 5.40 | 5.49 | 5.59 | 5.61 | 5.65 | 5.69 | 5.81 | 5.76 | 5.81 |
| Адзнакі горызонту вады 1927 г | 5.26 | 5.28 | 5.29 | 5.30 | 5.35 | 5.42 | 5.47 | 5.52 | 5.59 | 5.64 | 5.68 | 5.77 | 5.81 | 5.85 | 5.87 | 5.96 | 5.98 | 6.01 |
| Глыбіня торфу | 0.85 | 0.80 | 0.85 | 0.75 | 0.85 | 0.75 | 0.85 | 0.53 | 0.75 | 1.07 | 0.64 | 0.53 | 0.75 | 0.85 | 0.75 | 0.53 | 0.43 | 0.53 |

Рыс. 50.

рамонту дно каналу ў гэтым месцы супала з узроўнем існуючага дна каналу. Глыбіня каналу дасягае месцамі 4 *м*, калі лічыць ад паверхні існуючага кавальеру, які знаходзіцца каля броўкі каналу. Шырыня па дну ў гэтым месцы супадае і месцамі больш за проектную. Пры выкананьні работ па грунтоўным рамонце ў 1927 г. ў гэтым месцы на палове працягу былі зроблены звужэньні рэчышча з двух бакоў канавы, праз пабудову каморкавых умацаваньняў па забітых у пакаты калох з рэдкім запляценьнем



Рыс. 51. Спаўзаньне і размываньне неўмацаваных пакатаў у пясчаным грунце па Найда-Беляўскаму кан., Мазырскай акругі.

паміж імі лазовымі віцамі. Для наданьня прыгожага выгляду ў гэтыя каморкі засыпаны пясчаны грунт з існуючых кавальераў з адзірванаваньнем паверхні засыпкі (гл. рыс. 52).

У наступную вясну глыбіня вады ў канаве дасягнула да 2 *м* вышыні пры нахіле дна 0,0008, ад чаго дзірван і засыпка пяску каморак былі змыты (гл. рыс. 53).

Месцы, дзе пакаты былі пакінуты неўмацаванымі і дзе ня была зроблена такая шліхоўка пакатаў, застаюцца цяпер у




Рыс. 52.



Рыс. 53. Разбурэньне каморкавага ўмацаваньня пакатаў у пясчаным грунце па Найда-Беляўскаму кан., Мазырскай акр.

ранейшым стане і маюць, у параўнаньні з другімі месцамі, вельмі добры выгляд.

Наогул, трэба адзначыць, што на канаве цяпер зусім ня відаць грунтоўнага рамонту, зробленага 2—3 гады таму назад, калі ня лічыць паасобных частак умацаваньня, якія часткова захаваліся і часткова раскіданы па дну каналу ў розных палажэньнях і выглядах і сваёй прысутнасьцю паказваюць на тое, што тут ня так даўно ўкладзена даволі значная сума сродкаў.

На разбурэньне канавы зрабіў даволі значны ўплыў сплаў лесу па канале ў першую вясну пасьля грунтоўнага рамонту, таму ў мэтах захоўваньня сплаўных канаў, сплаў павінен быць забаронены ўладай на першыя два гады пасьля грунтоўнага рамонту ці выкопваньня канавы, пакуль пакаты і дно ўшчыльняцца і стануць больш устойлівымі.

13. **Нерасьнянскі магістральны канал Мазырскае акругі.** Нерасьнянскі магістральны канал пачынаецца з балот нізавога і пераходнага тыпу паміж вёскамі Мілашэвічы, Прыбалавічы, Букча, Тонеж, Данілевічы і Баравое. Гэты канал служыць вадапрыемнікам па асушцы сенажацяй і лясных плошчаў, акрамя гэтага, кожную вясну па ім сплаўляюць шмат лесу лесазагатоўчыя ўстановы.

Капітальны рамонт і частковае замацаваньне пакатаў зроблены ў 1925-26 опэрацыйным годзе. Канава на большай частцы свайго працягу праходзіць, як і канал № 31, у лёгкіх пясчаных пасьляледавіковых безвалунных, барханных адкладах жоўтага колеру, насычаных грунтавымі водамі. Умацаваньні, зробленыя ля самай ніжняй часткі канавы ў выглядзе нахіленых плецянёў з упускам на некаторую глыбіню ў дно канавы пры шчыльным зьбіваньні запляценьня, добра захаваліся і досыць добра захавалі пакаты ад размываньня і занясеньня дна выпіраньнем плывучага пясчанага грунту.

У другіх частках, дзе канава праходзіць у пясчаным грунце без умацаваньня пакатаў [1]), дно паднялося мясцамі да 0,5 мэтра, пакаты зусім разьбіты жывёлаю і сплавам лесу.

*Увага.* Працу лесасплаўных установаў трэба адзначыць як самую шкодную па захаваньні канаў. Гэтыя ўстановы зусім ня лічацца з тым, што

[1]) Умацаваньні пакатаў у другіх частках канавы былі адкладзены да наступнага году з прычыны адсутнасьці на гэта сродкаў.

трэба вельмі асьцярожна карыстацца канаваю. Довадам гэтага можа быць тое, што затопленыя дрэвы застаюцца з вясны да восені ня выцягнутымі з канавы і ў часе сплаву лесу па канавах ніякіх назіраньняў, у сэнсе беражлівага абыходжаньня з канавамі з боку гэтых устаноў, не вядзецца.

У сярэдняй частцы, паміж пікетамі 6—18 верхняй нумарацыі, дзе канава праходзіць у тарфяным грунце, дно яе пачало густа




Рыс. 54.

зарастаць травою і заілілася рэшткамі травяное і драўлянае расьліннасьці. Ніякіх прачыстак або выкошваньня травы ад пачатку капітальных работ да часу абсьледваньня не рабілася, хоць вартаўнік для аховы і дробнага рамонту на данай канаве і быў.

**14. Глушкаўскі масыў Мазырскае акругі, стрэлка № 31.** Канава № 31 бярэ пачатак з балот каля хутара Салагубава

і ўпадае ў Нерасьнянскую магістральную канаву. Работы па капітальнаму рамонту яе і ўмацаваньні пакатаў адбываліся ў летні сэзон 1926 г. Тып умацаваньняў паказаны на рыс. 54. Запляценьне паміж каламі зроблена даволі шчыльна лазовымі віцамі



Рыс. 55. Перагарнутыя плецянёвыя ўмацаваньні з аплывам пясчанага грунту з пакатаў на канале № 31, Мазырскай акругі.

Умацаваньне часткова захавалася і прыжылося да пакату, часткова абернута на дно канавы або абмыта з боку пакатаў. На рысунках 55 і 56 паказаны абернутыя ўмацаваньні пакатаў на дно канавы ціскам грунту, што адбылося ў першую палову году пасьля грунтоўнага рамонту. Галоўнейшымі прычынамі разбурэньня ўма

аваньняў былі: малая забіўка калоў, неадпаведная ціску грунту а ўмацаваньне, і вялікі нахіл, наданы дну канавы паміж пікемі 20—29 (гл. рыс. 57).

На ўздоўжным профілі канавы № 31 кропкавай лініяй праведзена дно канавы, якое стварылася да моманту дасьледваньня,



Рыс. 56. Канал № 31 Мазырскай акр. праз год пасьля грунтоўнага рамонту і ўмацаваньне пакатаў плецянямі ў пясчаным грунце.

і суцэльнай лініяй паказаны ўзровень дна, выкапанага пры капітальным рамонце. Прасачыўшы становішча гэтых ліній на профілі, можна ясна бачыць ход процэсаў размывальнага дзеяньня вады ў канаве, што вельмі відавочна выяўляецца паміж пікетамі 29—20—1, дзе дно канавы моцна зьмянілася ад размываньня з утварэньнем двух натуральных перападаў (гл. рыс. 58) і заілень-

нем ніжняе часткі. Дно канавы ў верхняй і ніжняй частцы п
чало зарас аць травою і выпукляцца паміж пікетамі 61—38
ціску грунту.

Пясчаныя кавальеры, якія стаяць ад броўкі канавы на адл
ласьці 1 *м*, пачалі ссоўвацца ў канаву ад праходу па бэрм
мясцовага насельніцтва, жывёлы, дзеяньня ветру і змывань



Рыс. 58. Размываньне дна з пабудовай натуральнага перападу, у пясчаным грунце на канале № 31, Мазырскай акр.

атмосфэрнымі ападкамі. Канава большаю часткаю свайго пра
гу, паводле досьледаў проф. Туткоўскага [1]), прарэзвае пасьляле
віковыя безвалунныя, барханныя, дробна-зярнёвыя пясчаныя а
клады жоўтага колеру, якія вельмі хутка разбураюцца пры ўпл

[1]) Проф. *Тутковский*. Геологический очерк Минской губернии.

ве на іх самых нязначных прычын і, ня гледзячы на гэта, не ахоўваюцца ад зьнішчэньня жывёлаю пры пашы, якая можа прывесьці канал да поўнага занясеньня. Пры рабоце канавы з максымальным узроўнем вады ў ёй назіраецца разьліў вады па балоце і занос паверхні яго пясчанымі адкладамі ніжэй пікету 23. Пры аглядзе каналу ў 1928 г. значных разбурэньняў умацаваньня, якое раней засталося неразбураным, не адбывалося. Дно каналу, а таксама і пакаты, якія былі пакінуты незамацаванымі за год 1927-28, значным зьменам не падпалі.



Рыс. 59. Заіленьне пяском, праз год пасьля пабудовы, фашынавага ўмацаваньня пакатаў на Жыткаўскім кан., Мазырскай акругі.

**15. Жыткаўскі канал Мазырскае акругі.** У 1928 годзе паміж ...скай Млынок і Рыбхозам „Чыстая Лужа" былі пабудаваны ў пясчаным грунце для дасьледчых мэт фашынавыя ўмацаваньні пакатаў каналу па тыпу, паказанаму на рыс. 34, але без умацаваньня дна. Фашыны для ўмацаваньня вязаліся дротам з лазы і бярозавага хмызьняку. Фашыны прыбіваліся каламі згодна з разьлікамі, паказанымі ў табліцы 19.

Праз год пасьля пабудовы ўмацаваньня выяўлена, што др… якім вязаліся фашыны, пакрыўся з паверхні іржою, але трымае… моцна, фашыны на простых частках каналу і на паваротах з… дыусам закругленьня ня менш 10 *м* заілілася з паверхні і ўся… дзіне пяском (гл. рыс. 59). Пакаты канаў, умацаваныя фашын… ў пясчаным грунце, добра захаваліся, аднак, у мясцох, дзе ў… цаваньне зроблена вышынёю 0,75 *м* без умацаваньня дзірван…



Рыс. 60. Размываньне дна і пакату на крутым завароце Жыткаўскага канал… Мазырскай акругі.

верхняй часткі пакатаў, пры глыбіні вады ў канаве ў весн… час больш 1,5 *м*, назіраецца размываньне паката… вышэй ума… ваньня. На крутых паваротах каналу, дзе дно праходзіць у лё… размываным пясчаным грунце і дзе былі зроблены ўмацава… выключна ўгнутага пакату без умацаваньня дна канаў, назірае… досыць моцнае размываньне дна на глыбіню да 1,5—2 *м* з … бурэньнем супроць гэтага размываньня ўмацаваньня пака… (гл. рыс. 60).

Разбурэньне ўмацаваньня пакатаў адбылося ў 6 мясцох на працягу каля 60 *м*, з агульнага працягу пабудаваных 1835 *м*, што складае 3,27%. Галоўнымі прычынамі, пад уплывам якіх адбывалася разбурэньне, трэба лічыць адсутнасьць умацаваньня дна на крутых паваротах каналу і не прадугледжанае размываньне земляной грэблі з разбурэньнем заставы ў Рыбхозе „Чыстая Лужа“, пры напоўненай вадою сажалцы. Да разбурэньня грэблі і спуску вады сажалкі, што адбылося пасьля спаду весна-



Рыс. 61. Рака Белая-Натопь, Аршанскай акр., пасьля рэгуляваньня ў 1927 г.

вое вады ў канаве, умацаваньні і дно захоўваліся ўвесь час добра без малейшага пашкоджаньня.

Тут цікава адзначыць тое, што дрот, якім вязаліся фашыны, ва многіх мясцох раскручан мясцовым насельніцтвам у мэтах скарыстаньня яго на гаспадарчыя патрэбы, але, ня гледзячы на гэта, умацаваньне на простых частках канавы захавалася досыць добра.

**16. Рэчка Белая Натопа, Аршанскае акругі.** Рэгуляваньне ракі Белай Натопы пачата ў 1926 годзе і скончана ў 1928 годзе.

Па ўсім працягу рэчка праходзіць у вузкай даліне з нізавымі тар- фянымі адкладаньнямі, акрамя 8 месц на працягу каля $^1/_2$ *клм* дзе перакопаны мінэральныя выступы з ілістай глебай. Каля канавы ўсьцяж наглядаецца выхад грунтавое вады і асабліва моцны н месцы работ 1928 г. Уся даліна складаецца з чыстых і частков пакрытых хмызьняком забалочаных сенажацяй. Паверхня балот па краёх, а месцамі і сярод даліны, мае рэзкія павышэньні ў за тарфаваньні. У пачатку даліны, асабліва з левага боку яе, на



Рыс. 62. Рака Белая-Натопь, Аршанскай акр. праз год пасьля рэгуляваньня ў глеістых адкладах.

глядаецца шмат выхадаў грунтавое вады ў выглядзе крыніц. Н асушанай часткі мэліорацыйным т-вам тарфянога балота вад стаяла ў 1928 г. на паверхні праз 2 месяцы пасьля выкопваньн канаў, пры глыбіні канавы 1 *м* і адлегласьці паміж імі прыблі на 30 *м*. Ня гледзячы на рэгуляваньне рэчкі ў 1927 годзе, даліна скрозь паўз канаву, а месцамі і бэрма заставаліся пакрытым зьверху вадою ў 1928 годзе пры сярэдняй глыбіні канавы 1,80 *м* і максымальнай глыбіні вады ў канаве за летні час 0,5 *м*.

Пры выкопваньні канавы ў ілістых адкладах трэба было карыстацца кіркамі і ламамі, але праз кароткі тэрмін гэтыя адклады пачалі трэскацца і ссоўвацца камлыгамі з пакатаў у канаву, дзе спакваля разбураліся на дробныя кавалкі, зьмяніўшыся ў воднае цеста з паземнай паверхнасьцю. Разбурэньне пакатаў працягвалася, пакуль паверхня разрэджанага грунту не запоўніла вынімку



Рыс. 63. Разбурэньне ўмацаваньня спаўзаньнем пакатаў у глеістых адкл адах па р. Белая-Натопь, Аршанскай акругі.

да верху глеістых адкладаў, што часам дасягалася пры разбурэньні канавы да 20 *м* у бок (гл. рыс. 61, 62, 63).

У гэтых месцох у 1927 годзе былі пабудаваны вэртыкальныя плецянёвыя ўмацаваньні пакатаў, якія адразу-ж пасьля іх пабудовы былі павалены ціскам грунту на дно каналу. Зробленыя дрэнажныя абводныя канавы ў гэтых мясцох, у мэтах перахопу грунтавое вады, на адлегласьці 5—10 *м* ад голоўнай канавы ніякай карысьці не далі.

У 1928 годзе, каб спыніць далейшае разбурэньне пакатаў і для магчымасьці ачысткі дна каналу, была пачата праца па пабудове ўмацаваньня пакату супроць вёскі Слабодка, па тыпу вэртыкальнай падпорнай сьценкі, зробленай з драўляных пласьцін, закладзеных за палі (гл. рыс. 64).

Пры забіўцы паль у грунт на глыбіню 2,75—3,0 *м.* яны адразу забіваліся хутка, далей моцна прыліпалі да грунту і пры ўдарах бабай пружынілі, застаючыся на месцы.



Рыс. 64. Драўляныя і фашыновыя ўмацаваньні пакатаў, праз год пасьля пабудовы, у гляістых адкладах па р. Белай-Натопі, Аршанскай акругі.

Дно канавы пры нахіле 0,0007—0,0009 у тарфяным ды ілістым грунце (дзе ілісты грунт застаецца ўвесь час пад вадою) добра супраціўляецца руху вады.

У 1929 г., ці праз год пасьля пабудовы ўмацаваньня пакатаў супроць вёскі Слабодка, аплываньне бакоў канавы спынілася, аплыўшы разрэджаны грунт зацьвярдзеў і пачаў з паверхні зарастаць травою, драўляныя і фашынавыя ўмацаваньні пакатаў, пры коэфіцыэнце надзёжнасьці 2, добра захаваліся (рыс. 64).

Супроць вёскі Ксяндзёўшчына, дзе былі зроблены ўмацаваньні фашынамі і плецянём, у мясцох звужэньня рэчышча канавы ўмацаваньнем адбыўся размыў дна канавы паміж умацаваньня пакатаў, з прычыны чаго напружанасьць грунту на забіўку калоў павялічылася і месцамі перавысіла часовае супраціўленьне, ад чаго атрымалася адхіленьне ўмацаваньня ад пакатаў. У тых мясцох, дзе напружанасьць грунту на забіўку калоў менш як часовае



Рыс. 65. Паступовае зношваньне пакатаў у тарфяным грунце на р. Белай-Натопі, Аршанскай акругі.

супраціўленьне, там фашынавае і плецянёвае ўмацаваньне пакатаў захавалася нават і пры нязначным размываньні дна.

У мясцох, дзе аплыўшы грунт зацьвярдзеў, праз сьвідраваньне высьветлена, што да роўню дна канавы, ці на глыбіню 1 *м*, ад паверхні зацьвярдзелага аплыву, грунт перамешаны, далей быў чысты цьвёрды глей, прапітаны грунтавою вадою.

У тарфяным грунце, дзе заснаваньню пакатаў было надана 1:1 і дзе неназіраецца зарастаньня, там адбываецца ў летні час

павольнае зношваньне пакатаў (гл. рыс. 65). Гэта зношваньн пачынаецца ад паверхні межаньніх вод і працягваецца да п верхні балота, паступова паглыбляючыся. У выніку заснаваны пакатаў набывае выгляд, паказаны на рыс. 66.

Галоўнай прычынай лушчэньня пакатаў зьяўляецца пэрыоды нае высыханьне і змочваньне паверхні пакатаў ад хістаньня роўн




Рыс. 66.

вады ў канаве, таму ў мясцох, дзе былі выкапаны вузкія а шальныя канавы з аснаваньнем пакатаў, ½:1, дзе ровень ва ня мае досыць значных хістаньняў і дзе пакаты, будучы вель крутымі, не асабліва моцна высыхаюць з паверхні, там цяп такога хуткага зношваньня не наглядаецца.

# II. ВЫБАР І РАЗЬЛІКІ ЎМАЦАВАНЬНЯ КАНАЎ.

## Агульныя заўвагі.

Абагульняючы вышэйсказанае, можна прыйсьці да вываду, што ɔаца па ўмацаваньні канаў знаходзіцца ў зародку, на які вы-ɔрчыя арганізацыі зьвяртаюць мала ўвагі.

Ня больш зьвернута ўвагі на гэту справу і ў асноўных пад-ɔчніках па мэліорацыі проф. Дубахам, проф. Касьцяковым ды ɔж. Брудаставым, якімі апісана ўся справа па ўмацаваньні канаў ɔ 1—2 старонках.

Уся праца па ўмацаваньні зводзіцца імі да пэралічэньня не-ɔлькіх адных і тых-жа тыпаў умацаваньня пакатаў канаў, якія ɔяцца ў мэтах захаваньня пакатаў ад размываньня. Інж. Бруда-ɔаў, між іншым, кажа, што ўмацаваньне трэба рабіць і ў мясцох, ɔлываючых ад ціску грунту, для чаго ім-жа раіцца аддаляць ɔвальер з бровак канаў. Больш дасканалых паказаньняў на тое, ɔкім патрабаваньням павінны адказваць тыя ці іншыя ўмаца-ɔаньні пакатаў, дзе, якія прычыны, у які час пасьля выкопваньня ɔанавы і якім спосабам павінны процідзеяць будаваныя ўмаца-ɔаньні, адказу на гэта мы ня знойдзем ні ў адным з існуючых ɔяпер дапаможнікаў. Каб меркаваць, наколькі важна ведаць тыя ɔмацаваньні, якія адпавядаюць мясцовым умовам, трэба яшчэ ɔаз зьвярнуцца да лічбаў разбуральнасьці пабудаваных да гэтага ɔасу ўмацаваньняў (табл. 3), якія з дастатковай выразнасьцю ɔьведчаць пра поўнае неразуменьне гэтай справы. Як вядома, ɔмацаваньні на канавах робяцца ў мясцох, якія без дадатковага ɔмацаваньня ня могуць захоўвацца ў наданым ім выглядзе, дзеля ɔаго, у мэтах захаваньня адпаведнай формы канавы на адпаведны ɔэрмін, і ўжываюцца ў такіх мясцох розныя тыпы ўмацаваньня.

Наколькі ўжываныя цяпер умацаваньні адпавядаюць паста-леным пытаньням, відаць было з ранейшага апісаньня, дзе пак-звалася на вельмі хуткае разбурэньне ўмацаваньня месцамі а-разу-ж пасьля пабудовы іх, месцамі на працягу першага год-што сьведчыць, што ні ўмацаваньні, ні форма канавы, ні тэрм-існаваньня іх не здавальняюць сучасным запатрабаваньням.

Канава, як і ўсякая складаная машына, будучы папсава-ў адным месцы, становіцца няпрыдатнай для скарыстаньня яе-значным працягу, прычым, будучы не папраўленым, папсаваны-хутка пашыраецца на значны працяг каналу і праз некаторы ч-прыводзіць яго да няпрыдатнага віду для адпаведнага скар-станьня. Таму для аднаўленьня папярэдняга выгляду робяц-пэрыодычныя невялікія і грунтоўныя рамонты праз адпаведн-прамежак часу. Практыкай устанаўляецца тэрмін: для невялік-рамонтаў 3—4 гады і для грунтоўных 10—12 год. Каб уяві-сабе, якое вялізарнае значэньне мае тэрмін паміж грунтоўны-рамонтамі, трэба падаць лічбы з справаздачы НКЗБ за 1924-26 га-падарчыя гады, якія атрыманы на адзін кілёмэтр рэгуляваньн-рэк і грунтоўнага рамонту лесасплаўных канаў (гл. табл. 5).

*Табліца 5*

| Прадмет выдаткаў | Даўжыня ў *клм* | Аб'ём выняткі ў *куб. м* | Затрач. у руб. | Аб'ём вынят. на 1 *клм* | Кошт прац на 1 *клм* прац |
|---|---|---|---|---|---|
| I | II | III | IV | V | VI |
| Рэгуляваньне рэк . . . | 212,20 | 784472 | 418955 | 3697 | 1974 |
| Грунтоўны рамонт лесасплаўных канаў . . . | 77,95 | 236838 | 142351 | 3038 | 1826 |

Як відаць, вялікае розьніцы ў вынятцы на адзінцы прац-і ў затратах на яе выкапаньне амаль што няма, таму можна лічы-што затраты на капітальны рамонт прыблізна роўны першапач-ковым затратам на мэліорацыю.

Цяпер зразумела, што падвойваньне, ці ўсякае павялічэн-тэрміну паміж грунтоўнымі рамонтамі, дае магчымасьць зах-ваць кожны год вялізарную суму сродкаў. У якім стане зна-дзяцца сучасныя мэліорацыйныя работы, сказана было ран-

пер трэба толькі падкрэсьліць, што сучаснае становішча з не торымі мэліорацыйнымі працамі працягваць далей немагчыма, зьнішчэньне пракопаных нанова ці грунтоўна рэмантаваных аў месцамі на 50%, а месцамі на ўсе 100% праз 2-3 гады (напр., Ўдава, Грэбелька і Талька Менск. акр., Лукаўскі канал Бабруйае акр., Найда-Беляўскі, стрэлка № 31, Нерасьнянскі канал Марскай акр. і інш.) зганьбіць справу мэліорацыі і ня дасьць магчысьці больш пасьпяхова выращаць задачы, пастаўленыя партыяй савецкім урадам у зямельнай політыцы. Галоўнымі прычынамі, ія дапамагаюць і разбураюць канавы, зьяўляюцца: а) неадпаведна даваная форма канавам (разумеючы ў прасторы), б) неадпаведе замацаваньне формы каналу і в) кепскае ўтрыманьне і скастаньне канаў.

Першую прычыну аб уплыве формы канаў на ўстойлівасьць трэба падзяліць на наступныя тры часткі: 1) форма папярэчга сячэньня канаў, 2) уздоўжны нахіл і 3) пракладка трасы, то адначасова і дасьць магчымасьць, высьветліць дзе трэба удаваць умацаваньне дна канаў і пакатаў.

Другая прычына падзяляецца на падбор тыпу ўмацаваньня разьлікі яго ў залежнасьці ад існаваньня адпаведных фактараў, кім павінна аказваць належнае супраціўленьне пабудаванае ўмааваньне.

## Форма папярэчнага сячэньня канаў.

Папярэчная форма канаў, як правіла, робіцца ў абсушальнай рактыцы ў выглядзе трапэцыі. Нахіленыя бакі яе, ці пакаты анавы робяцца з рознымі нахіламі ў залежнасьці ад таго, у якім рунце пракопана канава. Калі грунт мінэральны і хутка разбуаецца ад нязначнага ўплыву на яго пабочных прычын, то нахіл акатаў павялічваецца, пры шчыльных мінэральных і ў тарфяных рунтох нахіл пакатаў зьмяншаецца. Раней малюнкамі і рысункамі ыло паказана, што наданая трапэцыідальная форма папярэчых сячэньняў абсушаных канаў пачынае разбурацца адразу-ж асьля выкопваньня іх, і праз некалькі год ні на аднэй канаве ы ня можам знайсьці нават нязначнага месца з папярэдня наданым папярэчным сячэньнем. Гэта ўжо ў дастатковай меры гаворыць нам пра невыстарчальнасьць трапэцыідальнай формы.

Галоўнымі недахопамі зазначанай формы зьяўляецца тое, што хістаньне глыбыні вады ў канавах вельмі вялікае. У летні час вада ў канаве цячэ тонкім пластом па шырокаму дну, часта глыбінёю ня больш 0,05—0,10 *м*, тымчасам як вясною глыбіня вады бывае 1,0—1,5 *м*. Такое рэзкае хістаньне моцна ўплывае на канаву. Так, летам з прычыны тонкага пласту вады ў канаве, пры павольным цячэньні яе, дно зарастае травою і забруджваецца, у вясновы час глыбіня вады павялічваецца ў дзесяткі разоў і сваім рухам і ціскам грунтовай вады моцна псуе няроўнамерна замерзлыя ў слабым грунце пакаты. Для зразуменьня, як уплываюць на разбурэньне канаў паасобныя фактары, у які час пасьля выкопваньня ды іх зьмена з бегам часу, тут-жа падаецца табліца ўдзелу паасобных прычын у разбурэньні пакатаў. Доля ўдзелу адзначана трайнымі, двайнымі і адзіночнымі кружкамі, якія паказваюць моцны, сярэдні і слабы ўдзел у разбурэньні. Даволі павярхоўнага агляду паказанай табліцы, каб убачыць, як уплываюць і зьмяняюцца прычыны з бегам часу. У мінэральных грунтох, якія ў большасьці выпадкаў бываюць прапітаны грунтавымі водамі, на працягу першага і другога году канавы руйнуюцца галоўным чынам ад ціску грунту і грунтавой вады і ў меншай ступені ад руху вады па канаве. У тарфяным грунце, наадварот, ціск грунту і грунтавой вады менш уплывае, а зношваньне пакатаў адбываецца ад лушчэньня і размываньня. Праз адзін, два, а ў некаторых выпадках тры гады зазначаныя прычыны затухаюць, пакаты пачынаюць зарастаць травою, і канавы пачынаюць павольна зношвацца, зарастаць і заіляцца. Адгэтуль, чым менш ўплыў на канаву зробяць у першыя гады памянёныя прычыны, тым тэрмін існававаньня яе ў добрым становішчы будзе больш. Цяпер імкнуцца аслабіць некаторыя прычыны праз памяншэньне нахілу пакатаў і праз умацаваньне іх, але паданыя раней лічбы і прыклады паказваюць даволі яскрава, наколькі недасканалы гэтыя мэтоды. Калі ўспамянуць, што канавы разбураюцца, заіляюцца і зарастаюць ад непамернага хістаньня глыбіні вады ў канаве ў 10—20 разоў, тымчасам як на натуральных ручаёх хістаньне глыбіні бывае максімум у 3 разы, то зробіцца ясным, з чаго галоўным чынам псуюцца канавы.

Для зьнішчэньня памянёных недахопаў трэба форму папярэчнага сячэньня распрацаваць так, каб быў па магчымасьці зьме-

шаны ўплыў усіх вышэйпералічаных фактараў. Для гэтага трэба, каб хістаньне глыбіні вады было найменшым пры дастатковай глыбіні ў летні час, ад чаго залежыць размываньне, заіленьне і зарастаньне дна канаў. Апрача гэтага, павінен быць зьнішчаны ўплыў ціску грунту і грунтавой вады.

Гэтым умовам адказвае папярэчнае сячэньне, паказанае на рысунку 67.

Папярэчнае сячэньне a b c d e f g h з донным каналам c d e f дасягаецца ў шырокіх канавах з сучасным тыпам папярэчнага сячэньня a r s h бяз усякага павялічэньня земляных работ. На вузкіх канавах павялічэньне земляных работ для дасягненьня адзначанага сячэньня нямінуча, але затое канал не падпадзе існуючым цяпер разбурэньням. Такім чынам тэрмін існаваньня яго



Рыс. 67.

значна працягнецца, чым і акупяцца дадатковыя ўкладаньні на першапачатковае выкопваньне каналу.

Донны канал c d e f прарываецца так, каб у летні час рух вады і глыбіня яе былі мінімальнымі ў мэтах незарастаньня дна; наадварот, у вясновы час рух вады і глыбіня яе павінна быць максымальнымі ў мэтах неразмывальнасьці дна каналу. Адгэтуль, пры вялікіх нахілах дна канаў глыбіня доннага каналу зьмяншаецца і пры малых павялічваецца. Пры немагчымасьці дасягненьня неразмывальнасьці дна, пры максымальным роўні вады ў ім, дно доннага каналу трэба ўмацоўваць.

Папярэчнае сячэньне каналу робіцца так, каб лінія натуральнага пакату з найменшым кутам нахілу φ пры максымальным ціску грунтавой вады на пакат, выходзіла на паветры ў пунктах b l i gm.

Пакаты cd і ef доннага каналу ў мінэральным грунце і ў сла
бым тарфяным трэба ўмацоўваць, пакаты-ж abc і hgf скроз
задзірваноўваць.

Перавага апісанай формы каналу над ранейшай заключаецц
ў наступным:

1) ціск грунту і грунтавой вады на пакаты і ўмацаваньне зво
дзіцца да мінімуму;

2) у летні час ствараюцца ўмовы незарастаньня і незаіленьн
дна;

3) плошча злучэньня мерзлага грунту з незамерзлым мае мал
нахіл bc і fg, чаму не падпадае разбурэньню;

4) умацаваньне пакатаў cd і ef мае малую вышыню і знах
дзіцца ўвесь час пад вадою, чаму каштуе таней і ня гніе;

5) для каналу abcfgh грунтоўных рамонтаў амаль-што ніколі н
патрабуецца; для доннага каналу, пры захаваньні пералічаны
умоў, тэрмін паміж грунтоўнымі рамонтамі значна павялічваецц
і кошт іх значна зьменшыцца, як для каналу са значна меншы
папярэчным сячэньнем.

## Разьлік нахілу дна канаў.

Да гэтага часу і цяпер пры пабудове канаў на асушваных пло
шчах ніякіх разьлікаў нахілу дна не рабілі, а карысталіся даны
паасобных аўтараў, якія раяць будаваць нахіл дна ў належны
граніцах. Напрыклад, праф. А. Дубах [1] лічыць лепшымі гр
ніцамі нахілаў дна магістральных абсушальных канаў ад 0,000
да 0,001, а для бакавых, з разьмерамі па дну 0,42 *м*, глыбінё
1,07 *м*, ёсьць магчымасьць дасягаць у тарфяным грунце бяз шко
ды для іх стану 0,005. Пры ўздоўжным нахіле балота боль
0,002 раіць будаваць перапады вышынёй 0,6.

Праф. Касьцякоў [2] раіць для магістральных канаў лепшы
граніцы нахілу дна ад 0,0004 — 0,001 і для бакавых праводны
канаў нахіл можа дасягаць да 0,005. Гэтыя граніцы для нахіла
дна канаў часткова ўдасканальваюцца для адпаведнага грунту

---

[1] *Дубах и Спарро.* „Осушение болот открытыми канавами“, изд. 3.

[2] *Костяков.* „Основы мелиорации“.

глыбіні ручая праз наданьне руху вады адпаведнай сярэдняй хуткасьці. Напрыклад, проф. Касьцякоў у кнізе „Основы мелиорации“ раіць найбольшыя граніцы хуткасьці вады ў канаве:

| | |
|---|---|
| Для пясчаных глеб . . . . . . . . | 0,7 *м*/сэк. |
| „ торфу . . . . . . . . . . . . | 1,0 „ |
| „ шчыльнай гліны . . . . . . . . | 1,20 „ |

Там-жа падае граніцы максымальнай хуткасьці вады амэрыканскай практыкі асушэньня:

| | |
|---|---|
| Чысты пясок . . . . . . . . . . | 1,1 фут/сэк. |
| Пясчаная глеба з 40 проц. глiністых частак | 1.8 „ |
| Сугліністая глеба з 65 проц. гліны . . | 3,0 „ |
| Глiністая глеба з 85 проц. гліны . . . | 4,8 „ |
| Чыстая шчыльная гліна да . . . . . | 6,0 „ |

Мінімальная хуткасьць выцякае з умовы незаіляльнасьці канавы паводле Кеппеdy $v_0 \geqslant 0{,}545\, h^{0{,}64}$ м/сэк., дзе h—глыбіня вады ў мэтрах для часу пастулаючай вады ў канавы з большай колькасьцю наносаў (у часе паводак).

У практыцы прымаюцца мінімальныя граніцы хуткасьці 0,20 *м*/сэк., каб не асядалі ілістыя наносы, і 0,40 *м*/сэк., каб не асядалі пясчаныя наносы. Хуткасьць бегу вады для ўхіленьня ад зарастаньня дна канаў не павінна быць менш 0,5—0,6 *м*/сэк.

У аддзеле абвадненьня проф. Касьцякоў піша, што найбольшая сярэдняя хуткасьць, якая зьяўляецца межнай у сэнсе размываньня грунту, вызначаецца праз досьледы і мае наступнае значэньне:

| | |
|---|---|
| Для вельмі тонкага чыстага пяску . . . . . | 0.30—0,45 *м*/сэк. |
| „ лёгкай пясчанай глебы . . . . . . . . | 0,45—0,60 „ |
| „ супясчанай глебы . . . . . . . . . | 0,60—0,75 „ |
| „ сярэдніх глеб сугліністага тыпу . . . . . | 0,75—0,96 „ |
| „ больш шчыльных суглінкаў . . . . . . | 0,96—1,08 „ |
| „ жвіраватых глеб . . . . . . . . . . | 1,20—1,50 „ |
| „ скалістых грунтоў і конглёмэрату . . . . | 1,80—2,40 „ |

хуткасьць па дну складае каля 0,65 сярэдняй хуткасьці.

Даныя другіх аўтараў, напрыклад: проф. Чэрэпашынскага, проф. Ціме, проф. Фрыдрыха, Дзюбуа, Рэйнгарда і інш. ня вельмі адрозьніваюцца ад паданых.

З гэтых лічб для найбольшай сярэдняй хуткасьці вады ў канаве, якія раяцца асобнымі аўтарамі, відаць, што яны не даюць магчымасьці досыць строга вызначыць нахіл дна канаў пры адпаведным грунце і глыбіні ручая. Пра гэта кажуць цяпер шматлікія выпадкі з размываньнем і заносамі дна канаў адразу-ж пасьля пабудовы іх.

Каб паказаць, як уплывае глыбіня канаў на размываньне дна і занос яго і якую ўвагу зьвярнулі на глыбіню асобы, што займаліся выпрацоўкаю формул для незаіленьня канаў, трэба падаць значэньне мінімальнай, дапушчальнай, крытычнай хуткасьці вады пры адпаведным нахіле дна і розных глыбінях паводле Kennedy.

*Табліца 7.*

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| h *м* . . . . . . | 0,30 | 0,60 | 0,90 | 1,20 | 1,50 | 1,80 | 2,10 | 2,40 | 2,70 | 3,00 | 3,60 | 6,00 |
| V крыт. *м*/сэк. . . | 0,25 | 0,39 | 0,51 | 0,61 | 0,71 | 0,79 | 0,88 | 0,95 | 1,03 | 1,10 | 1,24 | 1,71 |

Па другіх формулах, якія найбольш ужываюцца ў практыцы, напрыклад, па формуле проф. Жукоўскага $V \text{ крыт.} = \frac{h}{B} + A$, гэта залежнасьць досыць блізка падыходзіць да крывой залежнасьці хуткасьці ад глыбіні, атрыманай паводле Kennedy.

Пры параўнаньні даных норм для неразмывальнасьці дна канаў і незаіляльнасьці яго выходзіць, што яны супярэчаць адзін аднаму, г. зн. адначасова па аднэй табліцы, пры аднолькавых умовах, можна атрымаць размываньне дна, а па другой—заіленьне яго. Каб канчаткова пераканацца ў гэтым, зьвернем увагу на наступную табліцу, складзеную пры $n = 0{,}025$ і заснаваньні пакатаў 1 : 1.

*Табліца 8.*

| Глыбіня вады H | Шырыня па дну A | Сярэд. хутк. вады паводле Шэзі V | Крыт. хутк. паводле Kennedy V кр. | Нахіл дна J | Выдатак вады Q | Плошча жывога сячэн. F | Гідр. радыус R | Змочан. абвод P | K |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0,60 | 1,50 | 0,41 | 0,39 | 0,0004 | 0,516 | 1,26 | 0,394 | 3,20 | 20,65 |
| 0,90 | „ | 0,51 | 0,51 | 0,0004 | 1,10 | 2,16 | 0,533 | 4,05 | 25,66 |
| 1,20 | „ | 0,60 | 0,61 | „ | 1,94 | 3,24 | 0,662 | 4,89 | 30,04 |
| 1,50 | „ | 0,68 | 0,71 | „ | 3,06 | 4,50 | 0,784 | 5,74 | 33,82 |

Адгэтуль відаць, што паводле Kennedy непавінны адкладвацца наносы ў канаве пры зьмяншэньні глыбіні вады ў ёй, або глыбіня вады і сярэдняя хуткасьць у адпаведна пабудаванай канаве ня ўплывае на размываньне і заіленьне дна. Калі да гэтага дадаць, што формула Kennedy ня мае зусім сувязі з струменем, з якога паступае вада ў канаву пры абвадненьні, то гэтага будзе даволі, каб адмовіцца ад карыстаньня гэтай формулай і іншых, якія пабудаваны паводле прынцыпу Kennedy.

З другіх формул, што даюць велічыню размывальнага дзеяньня вады, якія варты ўвагі, трэба адзначыць раўнаньне Dubuat, прыкладзенае du Boys'ам для разьлікаў у галіне рачной гідраўлікі, якое скарыстаў проф. Касьцякоу і вывеў наступную формулу:

$$\gamma H J \geqslant \frac{4\ gd\,(\gamma' - \gamma)\,f}{3\ kc_0^2},$$

дзе $\gamma$—вага адзінкі вады 1000 *клг/м*$^3$,

H—глыбіня струменю,

J—нахіл дна каналу,

g—прысьпешаньне сілы цяжкасьці 9,81,

d—дыямэтр частак грунту ў *м*,

$\gamma'$—адносная вага грунту 2500,

f—коэфіцыент шараваньня данага грунту 1,0,

k—коэфіцыэнт шурпатасьці 0,8,

$c_0$—сталы коэфіцыэнт доннай хуткасьці,

$v_0$—донная хуткасьць.

У гэтую формулу праф. Касьцякоў падставіў лічбы і атрымаў значэньне крытычнай доннай хуткасьці $V_0 = \backsim 5 \sqrt{d}$, па якой вылічыў наступную табліцу:

*Табліца 9.*

| Велічыня дыямэтру частак . . | | d= | 1 *мм* | 2 *мм* | 4 *мм* | 1 *см* | 4 *см* | 10 *см* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Крытычн. хутк. размываньня | Хуткасьць на дне . . . | $V_0$= | 0,16 | 0,22 | 0,31 | 0,50 | 1,0 | 1,50 |
| | Сярэдняя хуткасьць . . | V= | 0,22 | 0,30 | 0,42 | 0,70 | 1,40 | 2,10 |

Трэба адзначыць, што гэтая формула дае магчымасьць прыблізна вызначыць момант пачатку руху і затуханьня донных наносаў, што ў практыцы мае малае значэньне. Падобнымі досьледамі займаліся Dubuat, Telford, Belgrand, даныя якіх мала розьняцца ад папярэдніх даных.

У апошні час інжынэр Брудастаў[1]) раіць вызначаць сярэднюю мінімальную хуткасьць, пры якой цела будзе знаходзіцца ў вадкасьці ва ўзважаным стане па наступнай формуле:

$$V = 5,75 \sqrt{d \frac{\gamma' - \gamma}{\gamma}},$$

дзе d—дыямэтр частак грунту ў мэтрах,

[1]) *Брудастов* „Осушение болот и регулирование водоприемников". 1928 г., стар. 163. Інж. Брудастовым пры вывадзе формулы і падстаноўцы лічб для d=0,002, $\gamma'$=2 і $\gamma$=1, зроблены памылкі, таму хуткасьць атрымалася

$$v = 1,84 \sqrt{d \frac{\gamma' - \gamma}{\gamma}} = 0,82 \text{ м}$$

замест 0,257; наогул, формула Брудастава мала адрозьніваецца ад вышэйпаданых формул для пачатку руху донных наносаў.

$\gamma'$—адносная вага грунту,

$\gamma$—адносная вага вады.

Падставіўшы лічбы ў гэту формулу замест $d=0{,}002$; $\gamma=1$ $\gamma'=2$, атрымаем $V=5{,}75\sqrt{0{,}002\frac{2-1}{1}}=0{,}257$ *м*/сэк.

Гэтага можна лічыць выстарчальным, каб сказаць, што формула далёка ад сапраўднасьці.

Зрабіўшы скарочаны агляд прац па пытаньні аб нахіле дна, трэба спыніцца на выведзеным du Boys'ам законе сілы пацягу (Schlepp—Kraftgesetz).

Уявім сабе канал скрозь аднолькавых разьмераў, досыць добрай шырыні па дну і даўжыні для ўтварэньня роўнага руху, („установившегося течения“) у месцы назіраньня, які без перапынку роўнамерна харчуецца патрэбнай для адпаведнага часу колькасьцю вады.

Нахіл дна і глыбіня вады ў канале хай сабе могуць лёгка зьмяняцца, пры гэтым на ўстаноўленай частцы паверхня вады ў канаве ў кожным стане дна набывае нахіл роўны нахілу дна. Калі мы цяпер уявім сабе канал з горызонтальным дном, напоўнены вадою да глыбіні t, то ў канале ня будзе адбывацца ніякага руху; каб вызваць рух у канале, трэба пабудаваць нахіл паверхні вады, што магчыма зрабіць толькі пры наданьні дну каналу адпаведнага нахілу. Ад зьмены нахілу дна ў той ці іншы бок будзе таксама зьмяняцца і работа, якая ствараецца рухам вады ў канаве. Уявім сабе, што глыбіня вады ў канаве з нахіленым на адпаведны кут дном пачала павялічвацца ці зьмяншацца, тады таксама будзе зьмяняцца і работа, якая атрымліваецца ад руху вады ў канаве. Адгэтуль відаць, што непасрэднымі прычынамі зьмен работы, якая атрымліваецца на адзінцы шырыні і даўжыні дна каналу, ёсьць нахіл і глыбіня, г. зн. работа атрымліваецца на адзінку шырыні дна, як функцыя ад глыбіні t і нахілу $\varphi$; $P=f(t,\varphi)$.

Для вызначэньня максымальнага нахілу дна каналу на вызначанай частцы каналу трэба ведаць работу руху вады на гэтай частцы. Калі дапусьціць, што ніякага шараваньня і страты энэргіі не адбываецца, то гэта работа, паводле законаў мэханікі, будзе роўна прырашчэньню жывой сілы да разгляданай часткі і выра-

жаецца здабыткам ад масы матэрыяльнага цела, якое рухаец[...] на палову квадрата хуткасьці яго $\sigma = \frac{mv^2}{2}$ . . . . . . ([...]

Аднясем гэту работу да адзінкі працягу дна каналу аднаго мэт[...] пры шырыні таксама адзін мэтр, глыбінёю t, пры дапушчэнь[...] што на гэтай частцы адбываецца роўнамерны рух вады; у так[...] выпадку вышэйадзначаная работа цалкам пойдзе на перамо[...] розных перашкод, якія сустракаюцца на дарозе руху вады.

У формуле (1) вялічыні m і v магчыма зьмяніць роўнымі вялічынямі $m = \frac{G}{g} = \frac{wt.1.1}{g}$; $v = \sqrt{2gh}$, дзе G—вага вады [...] адзінцы плошчы дна каналу пры глыбіні вады t і ва[...] 1 *м*/куб = w.

У выражэньні хуткасьці v—для матэрыяльнага пункту, я[...] вольна рухаецца па нахіленай плошчы, вышыню h, можна зам[...]ніць роўназначнай ёй велічынёю нахілам $\varphi$, г. зн. падзеньнем [...] адзінцы працягу

$$\sigma = \frac{mv^2}{2} = \frac{G}{g} \cdot \frac{2gh}{2} = Gh = wt\varphi . . . . . . . . . . . ([...]$$

Проф. Н. Паўлоўскі (гл. „Гидравлика“, 1928, частка перш[...] стар. 199) выводзіць аналёгічнае раўнаньне для сярэдняга адн[...]нага супраціўленьня на сьценцы струменю $T_0 = -\triangle R\dot{I}$, дзе

$T_0$—адноснае супраціўленьне,

$\triangle$—вага адзінкі аб'ёму вады,

R —гідраўлічны радыус,

İ —нахіл.

Раўнаньне (2) было крыху інакш выведзена du Boys'ам і пр[...]кладзена ў практыцы для руху донных наносаў, што ня высьв[...]ліла ўсё-ж дастаткова граніц, патрэбных практыцы, пачатку м[...]нага размываньня і заіленьня дна канаў.

Адносна гэтага Эйгель піша (F. Kreuter. „Теория движен[...] речных потоков“, стар. 21): Ня трэба чакаць, што ў сапраўднас[...] процэс наносных перасоўваньняў такі просты, як пры прынят[...] дапушчэньнях і выабражальных адносінах. Процэс наносных пе[...]соўваньняў наглядаўся ў сапраўднасьці неаднакраць і пры па[...]рэдніх досьледах, зробленых у малым маштабе, не пацьвердзіў[...]

У паданым раўнаньні $e = \frac{\sigma}{w(\delta - 1)tg\alpha}$ для вызначэньня таўшч[...]

